Год V. 1927 СЬНЕЖАНЬ Кніжка 10-ая






# Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.

## Зьмест:



Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая 22.

САХА

Першы Беларускі месячнік сельскай гаспадаркі.

# Гутарка пра радковую культуру збожжа.

Трудна сярод нашага сялянства прышчэпліваецца ўсё новае, няпрывычнае. Поступ і веда неяк чамусьці дагэтуль мінае нашу вёску, якая традыцыйна пакуль-што дзержыцца ўсяго таго, што ўжо даўна аджыла свой век. Гаспадарка, наладжаная дзедам, вядзецца так сама і ўнукам, які ні за што не адважваецца зьмяніць гэты лад. Так было, так ёсьць, але гэтак далей ня можа быць. У той час, як горад чутка прыслухваецца да ўсіх навін, пільна сачыць за тэхнічнымі вынаходамі, якія цалком зьмяняюць спосаб і выгляд гарадзкой працы і робяць гарадзкога жыхара больш заможным, а вёска, асабліва наша беларуская, пакуль-што глуха да ўсяго таго, што дзеецца навакол. Гэта неадзыўчывасьць нашага селяніна да поступу і, сьмешна сказаць, шмат дзе варожае адносіньне яго да „новага" і веды, думаецца і ёсьць прычынай нашага ўбоства.

На старонках нашае часопісі мы ня раз падкрэсьлівалі, што пры сучасных палітычных абставінах беларускаму селяніну астаецца не чакаць ласкі ад кагосьці, а ўзяцца самому за паляпшэньне свайго быту. А спосабам, пры дапамозе якога можна палепшыць свой дабрабыт і пакінуць сваё ўбоства—будзе толькі зьмена старога, шкоднага ладу гаспадаркі і пераход да новае гаспадаркі, калі ўсе галіны яе будуць так арганізаваны, што яны дадуць найвялікшую карысьць.

Пераходзячы да разгляду навін у сельска-гаспадарчым жыцьці, трэба затрымацца над радковай культурай збожжа, якая даўна зацікавіла лепшых гаспадароў па ўсім культурным куткам зямной кулі.

Кожны селянін ведае, што густы пасеў збожжа дае і салому дробную і колас шчуплы; рэдкі-жа пасеў на расьлінку дзеіць наадварот. Імкненьне каласавых збожжаў да гранененьня (кушчэньня) вялізнае. Вядомы ў Англіі выпадкі, калі азімая пшаніца дала з аднаго зярня 2473 зярнятак.

Ёсьць дадзеныя, якія гавораць за карысьць радковага пасеву збожжа і пры нашых кліматычных і грунтовых

умовах. Трэба тут, каб гаспадар сам не перашкаджаў сілам прыроды разьвярнуць здольнасьць расьлінкі да росту, а гэтым сілам памагаў. Трэба расьлінку паставіць у такія ўмовы росту, каб усе фактары, дзеючыя на рост збожжа, былі дадзены расьлінцы ў найбольшай колькасьці.

Кожная расьлінка складаецца з трох галоўных частак: 1) карэньняў, 2) шыйкі, злучаючай карнявую сыстэму расьлінкі з надземнай яе часткай і 3) надземнай часткі. Амаль у самай паверхні зямлі шыйка разьвівае так зван. вузел



Каласкі атрыманыя пры абсыпаньню шыйкі збожжа, направа—без абсыпаньня

кушчэньня, з якога потым выходзяць дадатковыя сьцяблы і карані. Калі гэта шыйка ня будзе прыкрыта пульхнай зямлёй і паміж радкамі зямля будзе ня ўспульхнена, дык дадатковыя карані будуць голыя, бяз валасок, ад чаго рост збожжа, яго і кушчэньне будзе слабыя. Калі-ж часам кушчэньне і адбываецца, дык салома будзе слабае і збожжа паляжа. Зусім іншыя ўмовы росту збожжа ствараем, пакрываючы шыйку расьлінку зямлёй і ўспульхняваючы зямлю паміж радкамі. Тут ужо збожжа дае шмат дадатковых карэньняў, пакрытых валаскамі, якія служаць ротам для расьлінкі. Пры дапамозе карнявых валаскоў расьлінка ўцягвае шмат спажывы з зямлі, ад чаго збожжа буйна расьце і добра кусьцʼцца. А гэта бывае толькі тады, калі шыйку расьлінку абсыпвем зямлей. Як гэта дасягнуць на практыцы, увідзім ў наступных нумарох „Сахі“.

У. П.

# Першая дапамога пры ацёлу.

Звычайна роды ў жывёлы павінны адбывацца бяз усялякае дапамогі з боку гаспадара, пасьпешнасьць і перадчасная дапамога можа пашкодзіць жывёле і ацёлу. Роды—працэс фізіялёгічны і мусяць адбывацца пры дапамозе самых сілаў прыроды. Але-ж бываюць выпадкі, калі гэты працэс працякае няправільна, тады дапамога чалавека абавязкава патрэбна.

Няправільныя і цяжкія роды праходзяць больш усяго ў першацельнай каровы, альбо ў закормленай. Найчасьцей дапамога пры родах патрэбна, калі плод вялікі і ў лагве ляжыць ня так, як мае быць.

Нармальна цялёнак выходзіць пярэднімі ножкамі, на якіх ляжыць галоўка. Пры гэтакім палажэньню плода карова лёгка целіцца. Калі-ж плод бывае вялікі і карова аслабее, дык можна родам дапамагчы, асьцярожна пацягваючы цялё за ножкі ў тахт з патугамі. Пацягваць трэба трохі ўніз.

Калі карова робіць патугі цяліцца, а плод не паказваецца, трэба праканацца, ці правільна ідзе плод. Для гэтага трэба ўсунуць руку *) і абмацаваць цялё ў лагве.

Калі плод ляжыць правільна, а карова туга целіцца, можна цялё пацягваць, дзеля чаго закідваюць на ножкі і на галоўку пятлю з мяккае і таўставатае вяроўкі. Пятлю трэба накладваць паміж вушыма і ня дапускаць, каб яна саскочыла на шыю, ад чаго можа задушыцца цялёнак.

Пацягваць плод трэба сьперша ціха, а потым паступова пасільваць, але кожны раз у тахт патугам. Карысна, каб памоцнік пры патузе каровы паднімаў корань хвоста ўверх, ад чаго пашыраецца праходніца.

Калі цялёнак выходзіць у радзільным пузыры, дык трэба яго разарваць тады, як цялё добра пакажацца, інакш вада выльлецца і цялёнак будзе выхадзіць туга.

Неправільныя роды бываюць: 1) калі цялё ідзе перадам, а ногі схілены, 2) калі галава закінута паміж нагамі, ці схілена ў бок, 3) какі цялё ідзе бокам, 4) калі цялё ідзе задам, а ногі падабраны пад жывот, 5) калі плод накіроўваецца ў праходніцу да гары нагамі і апошнія схілены. Ува ўсіх гэтых выпадках, трэба карову падняць і, калі частка плада (галава ці ногі) відаць, трэба за іх прымацаваць пятлю з мяккае вяроўкі, плод адсунуць у часе паміж патугамі на сваё месца, прывесьці яго ў нармальнае палажэньне

---

*) Рукі павінны быць перад гэты добра вымыты, ногці абрэзаны і руку змачыць жырам.

(ногі ўперад, а на іх палажыць галоўку, калі плод ідзе перадам).

Трудна памагчы родам, калі плод ідзе задам з падкручынымі пад жывот нагамі: I тут трэба зпярша адсунуць цялё назад і выпрастаць ногі адну за другую, а калі загнецца хвосьцік, дык і яго выпрастаць. Пасьля гэтага дапамагаюць родам так, як і пры выходзе цялёнка перадам.



Калі паварот у сярэдзіне маткі зрабіць трудна, асабліва, калі выйдуць воды і матка шчыльна ахопіць плод, дык важна цераз гумалястычную трубку ў матку пусьціць значную колькасьць цяплаватае (каля 30°) вады. Пасьля гэта рухі з пладом у матцы рабіць лягчэй.

Трэба памятаць, што калі ёсьць магчымасьць, лепш пры трудных родах зьвярнуцца да вэтэрынара.

**Пры ўсіх ненармальных родах асьцярагацца ўжываць сілу, што часта робіцца на нашае вёсцы. Сіла бяз розуму заўсёды радам перашкаджае.**

**Зоотэхнік С.**

## Хваробы пасьля ацёлу.

Пры нармальных ацёлах жывёла хутка папраўляецца, але бывае, што вынікамі радоў зьяўляюцца розныя хваробы, ад якіх, калі жывёле ня прыйсьці з дапамогай, апошняя доўга хварэе і нарэшце гіне. Найчасьцей сустрэкаюцца, як вынікі ненармальных радоў, выпадзеньне маткі,



запаленьне сьлізьніцы праходу і маткі, радзільная гарачка і іншыя.

Матка выпадае больш усяго, калі рады бываюць няправільныя і патугі напружаныя. Калі матка вышла, яе трэба зараз-жа ўставіць на месцы. Калі яна прыпухла, кладуць халодны кампрэс, затым абмываюць цёплай перагатаванай вадой і напраўляюць яе ў радавы праход і далей на месца. Потым робіцца перавязка. Пры гэтай апэрацыі жывёлы мусіць стаяць вышэй. Калі матка паранена, дык трэба гэтыя месцы адрэзаць, але тут трэба абавязкова дапамога вэтэрынара.

Запаленьне сьлізніцы праходу і маткі вынікае ад забруджаньня праходу, а таксама пры выкідашу, загніваньні пасьледу, калі ён затрымаецца ў праходзе. Галоўнымі адзнакамі запаленьня бываюць наступныя: анухаеньне надворных частак праходу, выцяканьне брудна-жоўтае з гнілым пахам жыжы і пачырваньне сьлізьніцы. Лячыць гэту хваробу трэба квасцамі (2 сталовых лыжкі на паўвядра вады), 2% рашчынай лізолу (100 частак цёплай вады і 2 часткі лізолу), або крэалінам (у сумязі з вадой, як і лізол).

Найцяжэйшай радзільнай хваробай жывёлы лічыцца цельная гаручка. Хвароба гэта зьяўляецца ад заражэньня мікробамі, якія пападаюць у матку і далей у кроў ад брудных рэчаў.



Перавязка пры выпаданьні маткі

Пры гэтай хваробе жывёла мае тэмпэратура каля 40—41 градусаў, непакоіцца, часта кладзецца, ўстае і ізноў кладзецца. Хворая жывёла часта і трудна дышыць. Нарэшце жывёла не ўстае, бо зьяўляецца паляруш заду. Хвароба мае працяг каля 20 гадзін і пры адсутнасьці дапамогі хворая жывёла гіне.

Лячыць такую жывёлу трэба расьціраньнем ног, жывата і заду пучкамі саломы, смочанай шпікунарам альбо камфорным алеем і добра ўкрываць жывёлу мяккімі армякамі ці кажухамі. Жывёлу трэба паставіць у цёплы і сьветлы хлеў. Добра памагае пры гэтае хваробе ўколы ці ўдываньня паветру ў вымя, што пад сілу толькі вэтэрынару.

**Вэтэрынар Д.**

## Здаіваньне кароў пасьля ацяленьня.

У сялян украініўся звычай здаіваць кароў зараз пасьля ацяленьня, быццам для здароўя цяля. А чаму гэта мае быць здарова цялятам — хіба ніхто сказаць не патрапіць. Бачыць толькі другі, што малако ў сьвежа ацяліўшайся каровы густое, жоўтае (як у нас называюць яго — малодзіва)—не такое, як звычайнае малако і дзеля таго толькі, робячы розныя дагадкі — здаіваюць. Дзіўныя і сьмешныя выдумкі! А хто здаіваў гэтых кароў, калі яшчэ ня мелі яны сваіх гаспадароў, а дзікія, як цяпер ласі, пасьвіліся і жылі па лясох? А нераз бывае, што і ў хлеве карова ацеліцца ў ночы, а то яшчэ і з вечэра і пакуль прыжджэ гаспадара, цялё ўжо насьсецца і нічога кепскаго ад гэтаго яму ня робіцца.

Дык, калі сама натура дае карове такое малако, як малодзіва, — значыцца яно гэткае і патрэбна, і ня толькі ніякаму цяляці ня можа зашкодзіць, а наадварот—ідзе яму на здароўе. Першае малако маткі мае такую ўласьцівасьць, што яно развальняе жывот і гэткім парадкам цялё хутчэй чысьціцца, што канешна патрэбна для яго здароўя.

Малако маткі прытасавана да ўзросту дзіцяці; дык калі дзеля якіх колечы прычын нават прышлося-б паіць цялё малаком ад іншай маткі, то трэба выбіраць карову сьвежа ацяліўшуюся.

Здаіваньне малодзіва ня толькі шкодна для цяляці, але і шкодна яно для самой каровы. Да ацяленьня — для жывеньня целяці шмат крыві зьбіраецца ў целе каровы каля крыжавіны. Трэба некалькі часу карове пасьля ацяленьня, каб гэта кроў роўна разышлася па ўсяму целу каровы. Праз раптоўнае-ж здаеньне—кроў, моцна хлынуўшы ў жылы вымяні, дагэтуль сьціснутае паўнатой, напаўняе іх са шкодай для другіх часьцей цела, а асабліва для галавы, бо яны абязкрывеюць; карова тады не ўстае; ляжыць, як няжывая і прыходзіцца яе лячыць, бо гэта хвароба — так званая — анэмія можа скончыцца дрэнна.

Найчасьцей гэта здараецца з малочнымі каровамі, а ў маламалочных, якія дрэнныя маюць харчы, — хоць радзей, але так-сама бывае.

Калі каму прыдзецца здаіваць карову, як цялё хворае, або няжывое, то можна гэта рабіць не раней, як цераз некалькі гадзін пасьля ацяленьня і то не адразу, а за якія 2—3 разы з перастанкамі у 2—2 гадзіны.

А. Б.

# Цельная гарачка ў кароў (паляруш).

Хвароба гэта нападае на кароў, асабліва сытых і маладых, якія лёгка цяліліся, або на такіх, што добра кормяцца адразу пасьля цяленьня. Праз якіх 12 — 15 гадзін пасьля ацёлу, а яшчэ часьцей на другі-трэці дзень, раптам карова пачынае непакоіцца, потым перастае есьці, упіраецца галавою ў жолаб, скрыгоча зубамі, робіцца кволаю, лажыцца і пачынае цяжка дыхаць, закіўуўшы галаву набок: язык у яе выпадае, з роту і з абодвых бакоў яго цячэ сьліна, бо хворая на паляруш жывёла ня можа глытаць. Калі галаву такой каровы адвярнуць і паставіць роўна, то яна зноў адварочваецца на бок.

Ногі, вушы і ўвесь рот пры гэтым становяцца халоднымі. Калі паставіць градуснік у заднюю кішку такой карове, то ён не пака а больш 39 градусаў і нават 35 град.

Захварэўшую карову патрэбна зараз-жа лячыць. Праз рот ніякія лякарствы даваць ня можна, бо жывёла ня можа глытаць, а трэба ўлажыць руку ў заднюю кішку і выбраць адтуль увесь кал, потым паставіць леватыву; расьцёрці карову саломаю, як мага цяплей укрыць яе чым-небудзь цёплым.

Але самы галоўны спосаб лячэньня ад гэтай хваробы, і нават адзіны,—гэта ўдуваньне паветра ў вымя.

Апарат, які для гэтага існуе, завецца струмантам Эвэрса. Калі пад рукамі такога апарату не акажацца, тады можна дапасаваць да гэтага звычайную спрынцоўку або насос ад вэлёсыпэду, толькі на канцы іх павінна быць цэненькая і чысьценькая трубачка, якая ўваходзіла-б у сярэдзіну сыска, і старацца, удуваючы, каб паветра было-б чыстае, нічым не забруджанае.

Надзьмуваць у кожную чвэрць вымя трэба каля двух літраў паветра, каб яно добра такі набрыняла. Надзьмуўшы ў адну чвэрць, трэба, сьціснуўшы сысок, расьцёрці вымя, каб паветра разышлося па вымю; тады надзьмуваюць другую чвэрць і г. д.

Звычайна карова праз 6-8 гадзін пасьля гэтага, а часамі і раней ачуньвае, падымаецца на ногі і пачынае брацца за яду.

Ів. С.

## Просты спосаб грэць ваду жывёле.

Хто з нас не прыкмячаў, як ў вялікую сьцюжу наша жывёленька падайдзе да карыта каля студні ці на рацэ, панюхае і з тым самам, стуліўшыся, трасучыся, вяртаецца назад. Вядома, што не напоеная жывёла слаба бярэцца за ежу, а ад гэтага—частыя прастуды і хваробы. Больш руплівыя і разумныя гаспадыні ў вялікі мароз стараюцца грэць ваду ў печы, але гэты спосаб досыць клапотлівы.

Я ўжо некалькі гадоў зімою паю сваю жывёлку вадой, сагрэнай у хлеве. Для гэтага бяру бочку, (добра было б каб мэталёвую), укапваю ў хлеве ў гной, ад чаго вада за ноч саграваецца. Гэтай вадой паю сваю жывёлу. Пры гэтым трэба сачыць, каб пакрышка бочкі шчыльна прыставала да пасудзіны, не даходзілі да вады хлеўныя газы. У тыдзень два разы бочку трэба добра вымываць гатаванай вадой.

**Пляхтур.**

---

## Дагляд пчол у зімоўніку.

Добрая зімоўка пчол—адна з галоўных падставін пчалярскае гаспадаркі.

Але, каб зразумець умовы добрае зімоўкі, трэба ведаць, як пчолы жывуць зімою.

У час зімы пчолы ня дубеюць, як іншыя кузуркі, а сабраўшыся ў больш-менш цесны клубок, захоўваюць у сярэдзіне клубка належную цяплыню, патрэбную дзеля іх ціхага і малорухомага жыцьця, дышуць і патроху ядуць мёд. Дзеля гэтага пчолы адгрызваюць пакрыцьцё сотаў і мёд, які знаходзіцца ў іх, уцягвае вільгаць з паветра вульля, робіцца больш вадкім і ў такім выглядзе зьяўляецца ежай і пітвом дзеля пчол.

Пчолы, якія ў той ці іншы момант сядзяць на паверхні клубка, каб ня здубець, працісkваюцца ў сярэдзіне клубка, а іх месца займаюць іншыя пчолы. Гэта цягнецца праз увесь час зімовага пабыту пчол. Разам з спажываньнем мёду ўвесь клубок пчол патроху падымаецца ўверх да нечапаных яшчэ харчавых запасаў.

Зімою ў пчол працы мала, дзетак яшчэ няма. Загэтым, пры добрай, спакойнай зімоўцы яны зьядаюць мёду мала.

А гэта вельмі каштоўна, бо здаровыя пчолы ніколі не спаражняюцца ў вульлі. Яны затрымоўваюць у сабе (у здольнай расьцягвацца задняй кішцы) да вясеньняга вылету ўсе ке патрэбныя рэшткі ежы.

Усё тое, што прымусіць пчол зьесьці больш чым патрэбна дзеля падтрыманьня маларухомаго жыцьця, будзе

ім шкодзіць і можа выклікаць панос, ад якога пчолы гінуць.

Што-ж можа прымушаць пчол есьці больш, чым па трэбна пры добрых умовах зімоўкі?

Перш, занадта вялікая цяплыня ў вульлі, а таксама і холад ці непакой ад розных прычын.

Аднак, лішняя цяплыня часьцей чым холад шкодзіць добрай зімоўцы пчол.

Найчасьцей гэта здараецца ў занадта цёплых памяшчэньнях, куды ставяць вульлі дзеля зімоўкі, асабліва пад канец зімы, калі сонца пачынае мацней грэць будынкі.

Трэба клапаціцца, каб увесь час у зімоўніку, дзе зімуюць пчолы, цяплыня паветра не перавышала трох градусаў па цепламеру Рэамюра (+3° Р), як і холад не павінен быць звыш трох градусаў (—3° Р.).

Толькі пры такой цяплыні, бяз хуткіх зьмен і пры поўным спакою, цемры, чыстым і сухім паветры клубок пчол ня будзе зьмяняць сваёй велічыні; пчолы будуць малаpухомы і абмяжуюцца самай малай колькасьцю ежы.

Як толькі ў вульлі робіцца занадта душна, а паветра сухім, то мёд у адкрытых сотах ня можа прыцягваць належную колькасьць вільгаці, і пчолы адчуваюць смагу. Яны ядуць больш мёду, а ад гэтага і цяплыня іх клубка яшчэ больш павялічваецца. Матка можа пачаць адкладваць яйкі, пачынаецца звычайная гадоўля дзетак, павялічваецца без пары праца пчол і колькасьць патрэбнае ежы. Задняя кішка пчол перапоўніцца рэшткамі ежы, пчолы захварэюць паносам і гінуць.

З другога боку і холад у вульлі прымусіць пчол больш рухацца і, зразумела, больш есьці. Ізноў паўстае пагроза паносу ці беззпатрэбнае нішчэньне запасу мёду.

Непакой у вульлі, калі туды залезьлі мышы, а таксама і непакой каля вульля можа раскатурхаць пчол і вынікі ад гэтага будуць падобны да раней апісаных.

Ня менш патрэбна даглядаць, каб у вульлі было заўсёды чыстае паветра, бо пчолы дышуць і бяз чыстага паветра будуць задыхацца. Дзеля гэтага ў вульлёх, калі яны зімуюць у зімоўніку, ляткі павінны быць адчынены на усю шырыню, ціратовыя столі ці столі з дошак патрэбны зьняць і адчыніць ваконцы ў вульлёвых дахах. Бязумоўна, што і ў памяшканьні, дзе стаяць пчолы, паветра павінна быць чыстым.

Добры пчаляр будзе заўсёды аб усім гэтым памятаць і час ад часу наведвацца да сваіх пчол. Спачатку зімы даволі гэта рабіць раз у 3—4 тыдні, а далей і часьцей.

Калі-б здарылася, што які-небудзь вулей непакоіцца, трэба спрабаваць яго супакоіць, зьняўшы падушку з палатнянай пакрыўкі, якая ляжыць зімою зьверху рамак

вульля, Калі гэта не паможа, трэба на якійсь час зьняць дах, каб паменшыць задуху ў вульлі. Калі і пасьля гэтага пчолы не супакоіліся, то лепш перанесьці гэты вулей у другое памяшканьне, каб ён не бунтаваў іншыя вульлі.

Яшчэ трэба памятаць, што пры назіраньні за пчоламі зімою неабходна быць асьцярожным : ня грукаць і не чапляцца за вульлі, каб пчолы не даведваліся, што хтосьці прышоў да іх.

Калі неабходна асьвятляць зімоўнік, дзе стаяць пчолы, то гэта трэба рабіць па магчымасьці не на доўгі час і, такім чынам, каб сявятло ня трапіла проста ў лятох. Час ад часу ляткі вельмі асьцярожна трэба прачышчаць ад мёртвых пчол, каб яны не перашкаджалі сьвежаму паветру ўваходзіць у вульлі.

**Менская часапісь „Плуг“.**

---

# Рыбная гаспадарка.

Наша старонка багата рэчкамі, ручайкамі, балотамі і іншымі натуральнымі вадазборышчамі, якія сягоньня ляжаць у нас пусткамі і толькі абцяжварваюць селяніна падаткамі. Між тым, досыць тут палажыць трохі працы, як часта можна атрымаць значную карысьць.

На заходзе гэтакія пусткі служаць месцам, дзе часта гаспадары гадуюць рыбу і маюць ад гэтага зыск.

У нас, на Беларусі, пры няпоўнай норме мяса, якое ўжывае вясковы гаспадар, рыба, як прадукт багаты бялкамі і жырамі, гэты недахоп у мясе можа часта пакрыць. Добра арганізаваная рыбная гаспадарка, асабліва пры мястэчках і гарадох, можа прынесьці гаспадару кожны раз сьвежую залатоўку і падняць бюджэт гаспадаркі. Дагляд за рыбай не патрабуе шмат клопатаў і дастаўляе гаспадару задаваленьне і адпачынак ад цяжкай працы на ральлі.

З тымі паважанымі чытачамі, якія цікавяцца рыбнай гаспадаркай, у гэтым нарысе я хачу падзяліцца практычнымі радамі па арганізацыі рыбных стаўкоў, што не вымагаюць вялікіх матэрыяльных затратаў і па сіле нашым дробным сельскім гаспадарам.

Рыбу можна гадаваць у стаўкох або ў спэцыяльна выкапаных саджаўках. Там, дзе цячэ рэчка ці ручаёк, можна рабіць ставок. Дзеля гэтага ў вузкім месцы робяць застаўку, добра ўмацоўваюць яе, прысыпаючы зямлі. Застаўка павіннна быць вышэй ня менш як 1 арш. роўня вады і мець латок, пры дапамозе якога можна было б у кожную часіну спусьціць па жаданьню ваду з стаўка. Бакі стаўка трэба скапаць рыдлёўкай, ці абсыпаць зямлёй

і яе ўтромбаваць. Плошча стаўка залежыць ад таго, якую колькасьць рыбы гаспадар думае гадаваць ў стаўку. Зад стаўка загараджваюць так, каб з яго ня могла выбрацца рыба і каб у ставок не залезьлі „вадзяныя ваўкі"— шчупак і акунь, якія ласяцца маладой рыбкай. Лепш за ўсе латакі загараджваць драцянай сеткай.

Вось і ўся праца па будоўлі стаўка.

Замест стаўкоў можна на нізкіх мясцох капаць саджаўкі. Апошнія пажадана капаць пры рацэ, руччу, ці возеру, каб можна было кожны раз зьменьваць старую ваду на сьвежую. Капаючы для рыбы саджаўку, трэба выбіраць такое месца, каб пры разьліве рэк саджаўка ня была занята вадою, бо інакш уся праца не дасягае памысных вынікаў і ў такіх саджаўках гадаваць рыбу немагчыма.

Саджаўка мусіць быць ня менш 1 ар. глыбіні, у мялейшых саджаўкаў вада можа замерзнуць да самага дна.

Калі ёсьць магчымасьць паставіць рыбную гаспадарку шырэй, дык трэба мець побач некалькі саджаўкаў. У адных саджаўках рыба будзе зімаваць і гэта саджаўка капаецца глыбока, у другіх, дзе рыба вясной і летам гадуецца і іх трэба капаць мялей. Усе саджаўкі злучаюцца паміж сабой ровам, па якім рыба пераходзіць з аднэй саджаўкі ў другую.

У стаўках і саджаўках можна гадаваць усялякую рыбу, але найлепшую карысьць даюць карпы, карасі і ліпы.

Каб загадаваць рыбу, трэба набыць з бальшых рыбных гаспадарак маленькіх рыбак, якіх нада перавазіць зімой ці ў восень ў бочках з рачной ці вязёрнай вадой. Гадаваць з ікры рыбу — справа трудная і вымагае спэцыяльнае веды.

Мяса карпаў смачнае і заўсёды мае добры папыт на нашых рынках. Расьце карп хутка, раз вада ў саджаўцы цёплая.

Карась таксама дае мяса смачнае і добра расьце. Запладзіць карасём ставок ці саджаўкаў лёгка: досыць туды пусьціць некалькі карасёў малочнікаў і ікравікоў.

Практыка ў нас усталіла, што для гадоўлі лепш падаюцца карпы. Карміць карпаў вельмі не каштоўна. Параная бульба, навараны лубін, боб і дробна пакрышаныя — вось і добрая для іх спажыва. Карміць рыбку трэба старацца ў адну пару, у якую яна ахвотна зьбіраецца ў тое месца, дзе раскідваецца ежа. Зімой рыба сьпіць і карміць яе ня трэба, а вясной, як толькі лёд расстае, трэба ўжо прыкармліваць. Кормяць рыбу 2-3 разы ў дзень.

Зімой трэба пільна сачыць за тым, каб заўсёды былі ў лёдзе прадухі, інакш рыба можа задохнуцца.

У. Павалковіч.

# Некалькі слоў пра мышэй.

Каб падлічыць тую страту, якую даюць гаспадарцы мышы, дык пэўна наш селянін спалохаўся-б. Паедаюць мышы збожжа на полі і ў гумне, паедаюць зярняткі ў клеце, дзе часта ад іх нішчыцца ўся мазолістая праца нашага селяніна.

Каб змагацца з гэтымі шкоднікамі трэба ведаць, як яны плодзяцца.

Неразімаваўшая пара мышэй пры спрыяючых умовах іх размножаньня могуць даць у год каля 600 патомства. Мышка ў веку 8-мі тыдняў здольна ўжо пладзіцца і даць 10 14 дзетак.

Ведаючы гэту пладавітасьць мышэй, сяляне мусяць павясьці барацьбу з імі не па адзіночку, а сялом, грамадой. Аднаму гаспадару змагацца з гэтымі шкоднікамі ня ў сілу.

Часта мышам прышчэпліваюць бацылы мышынага тыфуса, але гэты спосаб дарагі і вымагае рукі спэцыялістага.

Зярняткі запраўляюць стрыхінай, ад чаго труцяцца добра мышы, але тут ёсьць небясьпека, каб ня атруціліся дамавыя птушкі. У немцаў з пасьпехам ўжываюць цынкавы фасфаран, які зьмешваецца з пшанічнай мукой (1 частка цын. фасф. на 50 частак мукі) і ў галках даюцца мышам да дзірачак.

М. П.

---

# Як закладаць каапэратыў (—спажывецкае таварыства).

Вельмі часта прыходзяць да нас запытаньні ад чытачоў нашай часопісі, як закладаць спажывецкія т-вы, інакай, — каапэратывы. У кароценькім нарысе пастараюся адказаць зараз на ўсе пытаньні, ды, апрача таго, напомніць усім, што каапэратыў будзе разьвівацца тады добра, калі за арганізацыю яго возьмуцца людзі з чыстым прошлым, г. зн. не замешаныя ў ніякія крымінальныя гісторыі, як растраты, кражы і г. п.; калі каапэратыў будзе сільным, г. зн. калі сяброў членаў яго ў пачатку арганізацыі набярэцца ня меней 40-50 асоб, ды і пасьля будзе надзея, што не перастануць запісывацца, а лік іх дойдзе да 100 асоб. Каапэратыў-жа з малым лікам сяброў будзе слабым дый хутка загіне, не пасьпеўшы нічога карыснага дзеля сяброў сваіх зрабіць.

На закладзіны крамы і закуп тавару, а такжа каб

дастаць невялічкі крэдыт, трэба мець каля пары тысяч злотых, як на цяперашні час. Дзеля таго адзін пай павінен быць ня меней 20—30 злотых, ды апрача таго кожны сябра павінен заплаціць упісовыя грошы на расходы па арганізацыі такога 2-3 злотых.

У выпадках, калі-б блізка былі крамы такога-ж роду прыватных гандляроў, трэба спадзявацца, што тыя павядуць сільную агітацыю проці ўступленьня ў сябры каапэратыву і складапьня паёў. Да гэтага трэ' быць гатовым, каб даць належны адпор.

Дзеля-ж самага залажэньня каапэратыву (— спажывецкага т-ва) патрэбна:

1. Зрабіць арганізацыйнае сабраньне закладчыкаў, якія ўкладаюць (—сьпісываюць) пратакол аб залажэньні ў данай мяйсцовасьці каапэратыву, прымаюць Статут (узор якога можна выпісаць з Związku Kooperatyw, Wilno, Mała pohulanka 12 [1]) і выбіраюць спасярод сябе Управу (Zarząd) і Раду (Rada Nadzorca).

2. У пратаколе трэба абазначыць раён (вёску. сяло, мястэчка, гміну і г. п.) дзеяльнасьці каапэратыву, велічыню паёў і ўпісовых, ды лічбу сяброў Управы і Рады.

3. Статут падпісываюць ня менш, як 100 асоб закладчыкаў; і з яго зьнімаюцца 2 копіі і згоднасьць (za zgodność) з аргыналам самага статуту і подпісаў закладчыкаў сьведчыць выбраная Управа (пасьведчаньні гэтых копіяў праз кого-колечы другога, напр. войта, судзьдзю, натарыюса не патрэбна).

4). Управа пасылае ў Акружны Суд: копію з пратаколу аб залажэньні каапэратыву, пасьведчаную так-жа Управай, Статут арыгінал і 2 копіі з яго; апрача таго, Управа падае ў гэты суд заяву (zgłoszenie) з просьбаю аб зарэгістраваньні статуту і сяброў Управы. Уласнаручныя подпісы сяброў Управы на заяве (zgłoszeniu) трэба абавязкова пасьведчыць у гміне чы ў натарыюса, можна пасьведчыць і ў міравога судзьдзі; на заяве трэба наклеіць гэрбовых на 1 злоты марак.

5. Правільна зложаны пратакол, статут і заяву суд зацьвердзіць праз месяц—два.

6. Перасла̂ўшы статут і заяву ў суд, можна выкупіць крамысловае сьвядэцтва (swiadectwo przemysłowe) ў Казначэйстве (Urzędzie Skarbowym) і прыступіць да працы.

7. Копію зацьверджанага статуту суд прышле у каапэратыў.

[1]) Маецца быць каапэратыўны стол пры Беларускім Коопэратыўным Банку, дзе хутка можна будзе дастаць усе інфармацыі на каапэрацыі.

8. Рэгістрацыя каапэратыву ў судзе пакуль-што каштуе да 50 злотых·

9. Як далей рабіць і як пачынаць працу ў каапэратыве, можна давецца ад інспэктароў каапэрацыі (lustratorów) у Вільні, Малая Пагулянка 12, Związek Kooperatyw.

**Узор заявы ў Суд:**

Do Sądu Okręgowego jako Rejestrowego w (wilnie, Nowogródku, Grodnie і г.д. залежна да якога округу належыць мяйсцовасьць).

Zarządu Spółdzielni Spożywców (назова каапэратывы „Сіла“, „Пагоня“, „Васілёк“ чы інначэй w (назова майсцовасьці).

Z G Ł O S Z E N I E.

Załączając przy niniejszem: Statut naszej spóldzielni wraz z dwoma odpisami tegoż Statutu oraz odpis protokołu zebrania organizacyjnego w sprawie założenia Spółdzielni i powołania Władz tej że, prosimy Sąd o zarejestrowanie Statutu i członków Zarządu, którży wszystkie zobowiązanią podpisywać będą.

(Подпісы 3 х сяброў і 1 кандыдата).

Własnoręczne podpisy członków Zarządu Spółdzielni (назова яе w (назова мяйсцовасьці) (прозьвішча і імя) we wsi ..........(зноў прозьвішча і імя другога) ze wsi .......... (ізноў тое самае рэшты сяброў) Urząd gminy (такоі-та) stwierdza

Adres spółdzielni ..........

**А. Коўш**

# Парады агранома.

**Пытаньне:** Ці варта даваць курам скарлупінку яек?

**А. Сыч.**

**Адказ.** Паеданьне цэлай скарлупіны прывучае курыцу паядаць яйкі. Калі-ж гэту скарлупіну патаўчы, дык парашок скарлупіны добра адбіваецца на нёскасьці курэй. Скарлупіну яйка курыца робіць з вапны, дзеля чаго, а перадусім зімой, даваць гашоную вопну куром карысна.

**Пытаньне:** Як атучыць каня ад грызеньня зубамі яськяў?

**В. А.**

**Адказ:** Гэта прывычка часта пераніімаецца ад другога каня і псуе зубы, ад чаго конь дрэнна есьць і худзее.

Каб збавіцца ад гэтага зла, бывае часта досыць толькі абабіць бляхай ці цьвякамі тое месца, дзе конь грызе, ці абмазаць гэта месца дзёгцем, смалою альбо крэалінам, як конь пакідае прывычку грызці дрэва.

**Пытаньне:** 1) Ці ёсьць гатунак канюшыны, які менш баяўся-б марозаў і вымаканьня?

2) Як вызначыць кірунак канаў пры асушцы балот?

3) Якія найлепшыя прылады для карчаваньня таўстых пнёў?

**Сталяронак.**

**Адказ:** 1) Швэцкая канюшына менш чырвонай баіцца марозаў і вымаканьня.

2) Асушыць балоты бальшой плошчы можа спэцыялісты. Маленькія кавалкі балот можа сам гаспадар асушаць. Кірунак канаў выбіраецца рознымі спосабамі (глядзі „Саху“ № 5 „Гутарка пра нашы сенажаці“).

3) Можна выкарчоўваць пні пры дапамозе амэрыканскага корнэдэрэ, які складаецца з моцнага зялезнага крука, некалькі зьвяноў ланцуга і таўстога дышля, які ўстаўляецца ў апошняе зьвяно ланцуга. Да дышля прымацоўваюцца ворчыкі. Гэту прыладу можа зрабіць добры вясковы каваль.

Лепш за ўсё выкарчоўвае машына сыстэмы Бэнэта Дзевіса, але яна каштоўная (каля 70 даляраў).

**Пытаньне:** Як вылячыць макрэц у коней?

**А Сьцебярук.**

**Адказ:** Макрец заводзіцца ў каня праз нядбаласьць гаспадара, калі конь стаіць і ходзіць па мокрым месцы і ногі на ноч не выцяраюцца. Пры гэтай хваробе сьпярша пачынае чырванець скура на задняй частцы пута над капытом, а потым зьяўляюцца ранкі, лік якіх паступова збольшваецца.

Як толькі гаспадар заўважыць прыкметы макрэца, трэба зараз-жа хворую нагу абмыць вадой з мылам, а потым вадой з борным квасам, Калі макрэц сухі, дык трэба вечарам і раніцай націраць нагу мазьзю (15 частак гліцэрыны і 1 частка сіняга камяня, або 20 частак вазэліна і 3 часткі сьвінцовага цукру). А калі макрэц сыры, мокры, дык трэба раніцай і на нач памазаць нагу цынкавай мазьзю. Хвароба гэта ўпорчывая і каб яна не вярнулася назад, трэба каня лячыць першыя часы і пасьля таго, як ногі загояцца.

---

## Паштовая скрынка.

**Янку Кіпару.** За абвесткі. зьмяшчаныя на старонках „Сахі“ адказнасьці на сябе рэдакцыя не бярэ.

**Сяргэю Цыбуку, Сымону, Раніце і інш.** У парадах агранома вам адказу не далі за адсутнасьцю спэцыялістаў па вашым пытаньням. Цяпер паваланы ў склад рэдакцыі новыя супрацоўнікі, пры дапамозе якіх будзем старацца памагчымасьці задавальняць усе натрэбы сваіх падпішчыкаў

**Янку Смыку.** Вамі ўнесена плата за „Саху“ да канца 1928 г.

**Аўгеню Тасыржы.** Аб гадоўлі лекарскіх зёлак гатовім артыкул, які зьмесьцім у наступных нумарох нашае часопісі.

**Мацею Астапчыку** і **Сымону Касяку** рэдакцыя шчыра дзякуе за распаўсюджваньне нашае часопісі.

---

Выдавец: УЛАСАЎ. Рэдактар У. ПАВАЛКОВІЧ

На 1928 год

Прыймаецца Падпіска на 1928 г. на сельска-гаспадарчую часопісь

На 1928 год

# „САХА"

**„Саха"** знаёмячы нашага селяніна ў навукова-папулярнай форме з лепшымі спосабамі апрацоўкі ральлі, ставіць мэтай дабрабыт дробнага гаспадара, які мог-бы бяз значных затрат падняць прадукцыйнасьць сваёй працы.

**„Саха"** будзе выхадзіць адзін раз ў месяц.

**„Саха"** будзе даваць падпішчыкам сельска-гаспадарчыя, юрыдычныя і іншыя парады бязплатна.

**Гадавыя падпішчыкі атрымаюць дарма пробы насеньня выдатных расьлін і заводзкага збожжа.**

**Падпісная плата:**

На год . . . . . 3 зл. —

На паўгоду . . . 1 зл. 75 гр.

**1 нумар — 30 гр.**

**—) Дарма „САХА" высылацца ня будзе. (—**

Для старых і акуратна высылаючых плату падпішчыкаў, якія адразу ня могуць выслаць грошы, часапісь будзе высылацца тады, калі яны вышлюць заяву аб высылцы ім „Саху" і абазначаць тэрмін высылкі платы.

Тыя падпішчыкі, якія вышлюць плату аднаразова на 5 нумароў — шосты дастаюць дарма.

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:**

Вільня, вул. Сьв. Анны № 2, кв. 3